# ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Цяпер ідзе падпіска на другі квартал на «Газету Слонімскую». Нагадваем: у сувязі з тым, што «ГС» забаранілі прадаваць у крамах горада, наша газета ў розніцу будзе распаўсюджвацца ў абмежаванай колькасці. Таму мы раім на «ГС» падпісацца. Такім чынам вы будзеце мець гарантыю атрымліваць газету своечасова і пастаянна.**




# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.

№ 10 (39). Слонім. 6 сакавіка — 12 сакавіка 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Кошт свабодны


## Селяніна абклалі падаткам

**З 1 студзеня 1998 года ўпершыню за ўвесь час існавання савецкай улады будзе ўтрымлівацца падаходны падатак з заробку калгаснікаў.**

Да гэтага часу калгаснікі, якія лічацца беднейшай часткай насельніцтва, падаходнага падатку не плацілі. Падатак плаціў калгас – 8% ад фонду аплаты працы. Цяпер даяркі, даглядчыкі жывёлы і механізатары павінны будуць плаціць у дзяржаўную казну падатак, пачынаючы з 251 тысячы рублёў заробку – 9% ад сумы. Калі заробак будзе большым, то працэнт адлічэння будзе павялічаны.

Атрымліваецца, што ў найбольшай выгодзе апынецца той калгаснік, які зарабляе менш.

Што датычыць зімовых месяцаў, то заробкі ў калгаснікаў невялікія, а значыць і падаходны падатак будзе невысокі. Але падчас пасяўной і ўборкі ўраджаю камбайнер ці вадзіцель змогуць зарабіць за месяц каля 10 мільёнаў рублёў, працуючы па 12-15 і больш гадзін у суткі. З гэтай сумы селянін абавязаны будзе заплаціць 20% падатку ад заробку.

Калі б такі заробак у калгасніка быў штомесяц, то ён плаціў бы, як і ўсе. Але ў данным выпадку зусім іншая сітуацыя – высокі заробак сяляне атрымліваюць толькі ў асобныя месяцы.

Узнікае пытанне: ці захоча калгаснік так ударна працаваць, каб пятую частку заробку аддаць дзяржаве? Калі селянін паставіць пытанне: я плачу падатак як у горадзе, то і працаваць павінен па-гарадскому – 8 гадзін у дзень.

–Не зразумела, хто гэты закон распрацоўваў, – сказаў былы старшыня калгаса «Дружба» Аляксандр Запагаеў. – Усё зроблена тайком ад земляробаў. Ні па радыё, ні ў друку ніхто пра гэта і слова не сказаў. І раптам, як снег на галаву, у калгас прыйшло паведамленне аб спагнанні падаходнага падатку. Пры распрацоўцы гэтага закону ніхто не ўлічыў той факт, што калгаснікі атрымліваюць заработную плату не толькі грашыма, але і натуральнымі прадуктамі – збожжам, бульбай і іншай сельскагаспадарчай прадукцыяй, а падаходны падатак будуць плаціць рублямі. І можа так здарыцца, што свой невысокі грашовы заробак селяніну прыйдзецца аддаць амаль увесь, каб разлічыцца з дзяржавай. Закон прама б'е па руках тых, хто хоча натхнёна працаваць, пазбавіць калгасніка стымула. Больш таго, лічу, што селянін будзе імкнуцца ўкрасці збожжа, бульбу, салому і ўсё іншае, каб пазбегнуць утрымання з яго падаходнага падатку. А каля кожнай скірды саломы, ці каля кожнага бурта з бульбай не паставіш вартаўніка. У свядомасці селяніна можа замацавацца небяспечная думка – лепш украсці, чым зарабіць і аддаць.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

## Падвялі вынікі і ўзнагародзілі

**У Гродзенскім абласным упраўленні культуры адбылася пашыраная нарада работнікаў культуры, дзе былі падведзены вынікі работы ўстаноў культуры і мастацтва вобласці ў 1997 годзе.**

Станоўча была ацэнена мінулагодняя дзейнасць аддзела культуры Слонімскага райвыканкама і Слонімскага беларускага драмтэатра. Ганаровымі граматамі ўпраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама былі ўзнагароджаны загадчык аддзела культуры Анатоль Цярэнін, артыстка Слонімскага беларускага драмтэатра Наталля Шугай і загадчыца Бярдовіцкага сельскага клуба Галіна Захарчук. Яны таксама былі адзначаны грашовымі прэміямі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Мужчины о женщинах

...Жанчына, —
Пяшчота у будзённасці жыцця,
Кветка урачыстасці на свята,
Светач непагасны пачуцця, —
Будзь шчаслівай, любай і багатай!

**Мікола КАНАНОВІЧ**

*В канун женского праздника корреспондент «Газеты Слонімскай» взяла интервью у мужчин, которые занимают в Слониме ответственные посты. Наша симпатичная сотрудница попыталась узнать, как они относятся к празднику 8 Марта, чем порадуют своих женщин? Вот что она услышала:*

**Олег ЛАКТЮШИН** (председатель горисполкома):

—8 Марта — хороший праздник. Для женщин горисполком подготовил торжественный вечер. Будет концерт с участием артистов из Минска. В исполкоме состоится маленький прием для представительниц женского населения города. А близким: матери, теще, жене и дочери — преподнесу цветы и подарки.

**Станислав ЗДАНОВИЧ** (председатель райисполкома):

—С «Газетай Слонімскай» никаких дел не имею. Разговор веду только со «Слонімскім веснікам», учредителем которой мы являемся.

**Михаил ОКУЛИК** (зам. председателя горисполкома):

—К празднику отношусь положительно. Женщин уважаю, ценю и люблю. Коллегам подарим цветы. Своей жене — духи, дочерям — игрушки.

**Анатолий КУДЕРКО** (полковник, заместитель командира Слонимской бригады):

—Замечательный праздник! Своих женщин порадую ценными подарками и, конечно же, внимательным отношением не только во время праздника, но и всегда.

**Иван КАХНОВСКИЙ** (начальник управления сельского хозяйства и продовольствия):

—С "Газетай Слонімскай" не дружу, потому что вы пишете всякую ерунду. И на вопросы ваши я отказываюсь отвечать.

**Владимир НИКОЛАЕВ** (директор автопарка №3):

—К празднику 8 Марта отношусь положительно. Замечательный день. Своей жене обязательно сделаю подарок, но еще не решил какой именно. Наших милых женщин с автопарка также порадуем в этот день.

**Михаил СОЛОВЕЙ** (директор нефтебазы):

—Женщинам на производстве дадим премии, пусть сами покупают подарки к празднику. А жену пусть поздравляет школа, где она работает учительницей. Что ей подарю — еще не знаю.

**Михаил ЮРЕНЯ** (начальник СПМК-64):

—И к празднику, и к женщинам отношусь хорошо. Жене обязательно подготовлю сюрприз, но что это будет еще не решил.

**Елена СИНЯК**

*В свою очередь редакция «Газеты Слонімскай» поздравляет всех слонимчанок с женским праздником и желает, чтобы близкие относились к ним внимательно и дарили радость не только один раз в году.*



## Чытайце ў нумары:



ЦИТАТА НОМЕРА

## Лови вора

**«...из 111 краж, совершенных в области в 1997 году, 58 остались нераскрытыми. Наиболее сложное положение в Островецком, Ошмянском и Слонимском ОВД, где все кражи остались нераскрытыми...»**

*(Из отчета начальника областного отдела уголовного розыска Ч.Белявского на коллегии УВД. «Милицейский вестник»)*

НАВІНЫ

## «Зайцы» у Слоніме не пераваліся

**Нягледзячы на вялікія штрафы (0,5 мінімальнай заработнай платы — 125 тысяч рублёў), колькасць «безбілетнікаў» у гарадскім грамадскім транспарце не паменшала.**

Па словах намесніка дырэктара па перавозках аўтапарку № 3 Валянціны Жук, за мінулы год у горадзе было аштрафавана 179 чалавек на суму 7 мільёнаў 531 тысячу рублёў. А ўжо за першыя два месяцы гэтага года кантралёрамі былі затрыманы за безбілетны праезд 23 слонімцы. Яны заплацілі 2 мільёна 825 тысяч рублёў штрафу.

**Сяргей ЁРШ**

## Памерці даражэй, чым жыць

**Сёння, каб пахаваць чалавека, родным і блізкім нябожчыка прыйдзецца выкласці, як мінімум, 1300000 рублёў.**

Як паведаміла майстар арганізацыі рытуальных паслуг вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Валянціна Карнелік, цяпер кошт труны складае ад 425 да 952 тысяч рублёў. Карыстанне катафалкам на працягу адной гадзіны каштуе 111 тысяч, каб выкапаць магілу трэба заплаціць 249 тысяч рублёў. За карзінку штучных кветак бяруць 208 тысяч, а за вянок – ад 112 да 584 тысяч. Драўляны крыж можна набыць за 50 тысяч.

У мінулым годзе прарабскі ўчастак ВА ЖКГ, які ажыццяўляе рытуальныя паслугі, атрымаў 4 млрд. рублёў даходаў. З іх чацвёртую частку складаюць даходы за прадстаўленыя рытуальныя паслугі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Чигирь едет в Москву

Бывший премьер-министр Беларуси Михаил Чигирь принял приглашение на работу в Центральном банке России и переезжает в Москву.

В связи с переездом на новую работу он выходит из состава президиума Национального исполнительного комитета — так называемого «теневого» правительства Беларуси.

**БелаПАН.**

# Брыгада рыхтуецца да вучэнняў

**Цяпер Слонімская брыгада рыхтуецца да правядзення каманднa-штабных вучэнняў, якія пачнуцца 10 сакавіка.**

А ў сярэдзіне лютага, на працягу тыдня, у Слонімскай брыгадзе працавала ваенная інспекцыя міністэрства абароны.

Як паведаміў карэспандэнту «ГС» палкоўнік Анатоль Кудэрка, інспектары правяралі арганізацыю і методыку правядзення заняткаў вайскоўцаў брыгады. Арганізацыя працэсу баявой падрыхтоўкі была адзначана, як добрая. Інспектары засталіся задаволены і метадычнай падрыхтоўкай слонімскіх афіцэраў.

Сяргей ЁРШ

# В белорусской армии служат 32 генерала

**Сейчас в белорусской армии проходят службу 32 генерала (при наличии 43 генеральских должностей), более 18 тысяч офицеров, средний возраст которых 32 года.**

Воинские части армии укомплектованы личным составом почти на сто процентов по штату мирного времени; некомплект офицеров и прапорщиков на низших должностях составляет примерно 4 тысячи человек. Проблему с укомплектованием частей военнослужащими, по словам начальника главного штаба белорусской армии М.Козлова, удалось решить в том числе и благодаря службе по контракту.

БелаПАН

# Альбярцін правеў зіму

**У нядзелю, 1 сакавіка, у Альбярцінскім парку прайшло свята «Провады зімы».**

Жыхары пасёлка сталі ўдзельнікамі цікавага прадстаўлення з песнямі, частушкамі, забаўляльнымі конкурсамі. А каля гандлёвых палатак можна было пачаставацца ласункамі на любы густ.

Ірына АНТОНАВА

## ПОШТА

*Гэты ліст піша вам мастацтвазнаўца з Мінска Віктар Ягорчанка.*

У мяне былі госці са Слоніма і прывезлі мне адзін нумар «Газеты Слонімскай». Мне ён вельмі спадабаўся. Як добра было б, каб такая газета выходзіла ў кожным раёне Беларусі. Трэба, каб беларускі люд ведаў усю праўду. Маё асабістае прывітанне слонімскаму дэпутату Варанцу. Я лічу, што мэр горада не павінен нікім прызначацца зверху. Мэр абавязаны выбірацца жыхарамі горада, як гэта робіцца па ўсёй Еўропе. Бо мэр, якога прызначылі — гэта не мэр, ад яго нічога добрага не дачакаешся і, акрамя хлусні, нічога не пачуеш. А вы яшчэ захацелі, каб такі мэр вам добрую справаздачу зрабіў.

Віктар ЯГОРЧАНКА, Мінск

*Дорогая редакция!*

Сравнительно недавно открыла для себя ваше издание и сразу же стала его читательницей. В отличие от «Слонимского вестника», ваша газета более интересна и современна, проблематична и актуальна.

Я не мастер писать в газету, но решила обратиться к вам с просьбой.

Я, Назаренко Анна Иосифовна, проживавшая ранее в Хойникском районе Гомельской области, по причине радиоактивного загрязнения территории, была вынуждена переехать на постоянное место жительства в деревню Сеньковщина Слонимского района, где и проживаю уже шестой год.

Случилось так, что я тяжело заболела и была вынуждена обратиться к врачам. И вот через некоторое время я почувствовала себя лучше. Помогли мне в этом лечащий врач Константин Холупко и медсестра Зинаида Быцко.

Я благодарна им за то, что они вернули меня к жизни. Спасибо им за хорошее отношение к больным! Именно оно лечит лучше всех лекарств!

С уважением, жительница д.Сеньковщина Анна Иосифовна Назаренко.

## ІНФАРМБЮРО

# Будзем ездзіць па таксометру

*Раскажыце, калі ласка, да якога тэрміну я абавязаны ўстанавіць таксометр.*

*Прыватны таксіст*

З 1 красавіка бягучага года ўсе таксі павінны мець таксометры, а ўжо з пачатку другога паўгоддзя таксісты павінны ўстанавіць электронныя лічыльнікі. Такім чынам улады плануюць навесці парадак у камерцыйным сектары пасажырскіх перавозак.

Да 1 ліпеня 1998 года прадоўжаны тэрмін устаноўкі электронных таксометраў перавозчыкам пасажыраў, якія маюць аўтамабілі-таксі, абсталяваныя механічнымі таксометрамі.

Складаней прыйдзецца таксістам, чые аўтамабілі не абсталяваны механічнымі таксометрамі. Ім неабходна будзе ўжо да 1 красавіка 1998 года ўстанавіць электронныя таксометры.

Пасля заканчэння ўказаных тэрмінаў забараняецца выкарыстоўваць аўтамабілі, не абсталяваныя таксометрамі.

Разам з тым, дзяржаўны рэестр абавязвае ўстанаўліваць наступныя мадэлі таксометраў: ТАЭ-1 вытворчасці Новаполацкага завода «Вымяральнік» і МТАХ, які выпрабляе фірма «Сіфтранс». Толькі гэтыя прыборы будуць рэгістравацца ў падатковай інспекцыі.

У нашай вобласці пытанні набыцця, устаноўкі і тэхнічнага абслугоўвання таксометраў вырашае пакуль-што адзіная арганізацыя — гандлёва-тэхнічны цэнтр «Мікс», што ў Гродне.

Ці будуць нововаўвядзенні спрыяць умацаванню фінансавага парадку сярод прыватных таксі, ці палепшыцца ад гэтага ўзровень абслугоўвання пасажыраў, пакажа час.

Валянцін ЧУРЫЛА

## ЭКОНОМИКА

*Владимир КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор*

# Новая тарифная сетка не решает проблему повышения зарплаты

В Беларуси введена новая единая тарифная сетка оплаты труда работников. Ее особенностью и отличием от предыдущей является то, что почти вдвое оказались ужаты коэффициенты. Если раньше разница между 1-м и 28-м разрядом составляла 11,25 раз, то сейчас — только 6,48. То есть, просматривается тенденция не столько повысить заработную плату для всех, сколько ограничить ее рост для категорий работников, которые считаются высокооплачиваемыми.

Анализ введения новой тарифной сетки показывает, что ни одной кардинальной проблемы организации заработной платы она не решает. Например, во второй половине 1997 года три четверти населения республики имели среднемесячные доходы, не превышавшие минимальный потребительский бюджет, а каждый третий житель Беларуси находился за чертой бедности. В соответствии с новой тарифной сеткой, минимальный потребительский бюджет будет гарантировать ставка только 20-го разряда. Можно ли вообще это назвать повышением заработной платы?

По заявлению заместителя председателя Федерации профсоюзов Беларуси Франца Витко, зарплата в стране утратила свою воспроизводительную и стимулирующую функции. Средний уровень по народному хозяйству сегодня не обеспечивает расходы населения в пределах минимального потребительского бюджета. На оплату труда в 1997 году распределено всего лишь 23,9% от ВВП.

Во второй половине 1997 года белорусские власти и профсоюзы несколько раз объявляли о предстоящей реформе заработной платы, главным содержанием которой должно было стать установление ставки 1-го разряда, равной минимальному потребительскому бюджету (МПБ). Но почему-то при этом Министерство труда настаивало на размере ставки 1-го разряда только в размере 550 тысяч рублей, а профсоюзы — 690 тысяч рублей. Такой подход был явно половинчатым и лишь предварительным шагом к решению поставленной задачи. Ведь на сегодняшний день минимальный потребительский бюджет в Беларуси равен 2 миллионам 300 тысячам рублей. Но даже эти параметры не были выдержаны: минимальная заработная плата с 1 января повышена только до 250 тысяч рублей.

Существовала надежда, что повышение «минималки» до 250 тысяч рублей, а ставки 1-го разряда — до 500 тысяч рублей едва ли не в два раза повысит размер среднемесячной заработной платы.



*Шестеренки... Фото IREX/ProMedia*

Однако предынфарктное состояние белорусской экономики усугубляет финансовый кризис субъектов хозяйствования. На 1 января 1998 года их просроченная дебиторская задолженность составила 41,7 триллиона рублей, кредиторская — 47,2 триллиона. Более 80 % промышленных предприятий республики не в состоянии оплатить просроченные долги и являются потенциальными банкротами.

Обращает на себя внимание и еще одно важное обстоятельство, связанное с повышением заработной платы. В прошлом году по причине низкой зарплаты бюджетников администрация организаций и учреждений получила разрешение устанавливать фиксированные доплаты к основным окладам. Похоже, что сейчас эти доплаты просто приплюсуют к основным окладам. Такая манипуляция позволит официальной пропаганде твердить об увеличении заработной платы в стране, реальный же ее размер останется прежним.

Удивительно, что минимальная заработная плата официально повышена с 1 января, уже разработана и обнародована новая Единая тарифная сетка, а зарплату бюджетники за январь получили, исходя из прошлогодних окладов. Одно из двух: либо в государственном бюджете нет денег, либо власти не хотят спешить с повышением заработной платы. А возможно, и то, и другое вместе. Неслучайно в начале 1998 года была сделана попытка ввести для граждан двойное налогообложение.

Введение новой тарифной сетки и повышение минимальной заработной платы никак не влияют на решение и других проблем, накопившихся в системе оплаты труда. Например, на проблему задолженности по зарплате. На конец января этот долг достиг 953,6 миллиарда рублей. Сотни граждан вступили в новый год, не получив заработанные деньги. Главная тяжесть задолженности лежит на плечах колхозников и работников совхозов: долг перед ними составляет 65 % от общей суммы.

У большинства работающих низкая заработная плата остается чрезмерно низкой. Работники 1-12 разрядов получают в месяц суммы, эквивалентные 12-32 долларам. Как можно прожить на такие деньги, если в стране цены, близкие к мировым?!

Сохраняется тенденция к увеличению разрыва между уровнями оплаты труда в социально-культурных отраслях и промышленности. Так, если в 1996 году уровень средней зарплаты в здравоохранении был равен 81,1 % от средней зарплаты в промышленности, то в 1997 году он снизился до 70,6 %. В сфере физкультуры и спорта — соответственно с 79,1 до 71,8%; в социальном обеспечении — с 49,2 до 45,9; в образовании — с 64,9 до 57,9; в науке и научном обслуживании — с 98,8 до 93,8%.

Нельзя сбрасывать со счетов и ожидаемую инфляцию, которая может свести к нулю номинальное повышение заработной платы. Запас инфляции сегодня настолько велик, что удержать цены не помогут никакие административные меры.

БелаПАН



Газета Слонімская

Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г. Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109-1-12.

Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.

E-mail: gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 5 сакавіка 1998 г. Час падпісання 8:00.

Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042. Наклад 7.100 экз. Заказ № 673

КОНКУРС *Самая очаровательная*

# Перамагла Наталля

***Вось і закончыўся першы тур нашага конкурсу «Самая очаровательная», які пачаўся ў лістападзе мінулага года. У выніку, пераможцамі сталі Наталля Матусевіч (яе фота было змешчана ў № 28 ад 12 снежня 1997 г.), Алена Мароз (№ 8 ад 20 лютага 1998 г.) і Наталля Бот (№ 7 ад 13 лютага 1998 г.). Дзяўчаты былі ўзнагароджаны падарункамі, якія нам ласкава прадставілі крама «Грант», што знаходзіцца ў памяшканні кінатэатра «Мір» і гродзенская фірма «Губерт і К°».***

Першае месца заняла 19-гадовая Наталля Матусевіч, якая атрымала падарункаў на суму 2 мільёны рублёў. Яна выпускніца чацвёртай сярэдняй школы. Пасля заканчэння дзевяці класаў паступіла ў Слонімскае ПТВ-189, дзе атрымала прафесію повара-лабаранта хіміка-бактэрыялагічнага аналізу. Аднак па спецыяльнасці на працу Наталля не ўладкавалася. Часова была беспрацоўнай. Цяпер яна працуе мастаком па каменю ў прыватнага прадпрымальніка. У вольны час займаецца спортам, малюе, ходзіць на дыскатэкі, сустракаецца з каханым чалавекам. Наташа не збіралася ўдзельнічаць у конкурсе, але пераканаў брат, які і прывёў Наталлю ў рэдакцыю. І, як аказалася, ён не памыліўся — Наталля Матусевіч стала пераможцай першага тура нашага конкурсу.

Другое месца было прысуджана 20-гадовай Алене Мароз, якая атрымала падарункаў на суму 1,5 млн. руб. Алена выдатна закончыла дзесятую сярэднюю школу і педагагічнае вучылішча. Цяпер яна завочна вучыцца на музычным аддзяленні Мінскага педагагічнага ўніверсітэта і працуе музработнікам у дзіцячым садку. Алена захапляецца музыкай, вельмі любіць дзяцей. А яшчэ яна спадзяецца сустрэць сваё каханне.



*Пераможцы конкурсу (злева-направа): Алена Мароз, Наталля Матусевіч і Наталля Бот з падарункамі.*

17-гадовая Наталля Бот у нашым конкурсе стала трэцяй і была ўзнагароджана падарункамі на суму 1 млн. руб. Яна вучыцца ў 11 класе сёмай сярэдняй школы. Марыць звязаць сваё жыццё з юрыспрудэнцыяй. Пра конкурс яна даведалася з газеты, бо з'яўляецца падпісчыцай «ГС». Сама яна не рашылася паслаць фота, аднак яе пераканалі сяброўкі, якія адправілі здымак Наталлі ў рэдакцыю. Наташа любіць слухаць музыку і чытаць кнігі. Калі ёсць вольны час, дапамагае маме прыбіраць у кватэры. А яшчэ яна спадзяецца сустрэць вясёлага, чулага і смелага хлопца.

З наступнага нумара мы пачынаем другі тур нашага конкурсу, спонсарам якога пагадзіліся стаць аддзелы Kodak, што размешчаны ў крамах «Юбілейная», «1000 дробязей» і «Дружба».

Пераможцы гэтага тура будуць узнагароджаны прызамі фірмы Kodak — фотаапаратамі Exacta, Practice, Premier. Таксама прадугледжана вялікая колькасць заахвочвальных прызоў. Умовы конкурсу — фотаздымкі павінны быць зроблены толькі ў гэтых аддзелах.

Умовы тура ўскладняюцца. Разам з фотаздымкамі мы просім удзельніц дасылаць больш падрабязны расказ пра сябе, у якім «гераіня» павінна раскрыць сутнасць свайго характару, акрэсліць для сябе месца ў жыцці.

Удачы вам, мілыя прыгажуні!












ПАЭТЫЧНЫ РАДОК

**Виктор НЕБОЛЬСИН**

### Женский день

Поздний вечер,
тихий вечер,
Телевизор замолчал,
Было мне
заняться нечем,
Сидя в кресле
я скучал.
Время спать
давно приспело,
Стрелки двигались
к нулю,
Я все думал:
«В чем же дело?
Почему же я не сплю?
Все нормально,
все в порядке,
Пугачева все поет,
Жизнь идет
спокойно, гладко,
Что же спать
мне не дает?»
Неожиданно я слышу,
На дворе
какой-то шум,
Подошел к окну
поближе:
Что за звуки
«блюм» да «блюм»?
«Блюм» да «блюм»
без передышки,
Тут, конечно,
не до сна,
К черту сон!
Зиме-то крышка!
Подоспела
к нам весна!
Сердце сразу
встрепенулось,
Словно было
век в плену,
Тут жена
моя проснулась:
«Дурью маешься?..
Ну, ну!»
Боже мой!
Я сразу понял,
Что растяпа
я и пень,
Не капель бы
проворонил,
Я ж забыл
про женский день!
Праздник этот
очень важный:
Даришь милой
дефицит,
Привернешь
цветок бумажный,
Смотришь —
месяц не рычит.
Но на этот
раз хочу я
Для жены
собрать банкет!
Ладно уж, похлопочу я,
Будет помнить
десять лет.
Стол накрою ей,
как в сказке:
Фрукты, вина, балыки.
Кухня — только
по-кавказски,
Лучших марок
коньяки.
Я решу задачу эту
В лучшем виде,
но сперва
Подготовить
надо смету,
План всегда
всему глава.
Смета сметой,
план-то планом,
Но как начал я считать,
Вижу — то
не по карману,
Это — где теперь
достать?..
Вот так планы,
вот так смета,
Тут и праздник,
и банкет,
Показать
жене все это —
Будет помнить
двадцать лет!
Вот задача
так задача:
Дебет,
кредит и баланс,
Да еще свою заначку
Проиграл
я в преферанс.
Ладно,
лучше на восьмое
Я жене духи куплю,
Сдам бутылки,
пол помою
И скажу ей,
что люблю.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### У Мінску

Каханую не сустракаў у Рыме,
Не каштаваў парыжскага віна.
Выгнаннікам не быў я на чужыне,
І за Радзіму — не на мне віна.
На шырыню сталічных доўгіх вуліц,
Пад бляск чужых неонавых агнёў,
Мая былая да сябе прытуліць,
І горад я сваім адчую зноў.
Бо горад наш, як памяць і юнацтва,
Як плынь сцягоў, якіх не адмяніць!..
Хай едзе ў Рым мясцовае начальства, —
Мне па Траецкім трэба пахадзіць.

ТАЯМНІЦЫ

# Слонімскае падзямелле

**У мінулым годзе "ГС" ужо знаёміла чытачоў з таямніцамі слонімскага падзямелля. Высвятляецца, што сістэма падземных тунэляў у нашым горадзе існавала і дзейнічала яшчэ ў 50-х гадах нашага стагоддзя. Менавіта ў той час пачалося іх знішчэнне, якое працягвалася дзесяткі гадоў. Цяпер захаваліся толькі некаторыя участкі тунэляў былога падземнага Слоніма...**

## Злодзеі з падзямелля

У першыя пасляваенныя гады ў Слоніме дзейнічалі банды піцерскіх і растоўскіх злодзеяў, якія называлі сябе "чорнай кошкай". Яны рабавалі крамы і людзей. У 1951 годзе злодзеі "абчысцілі" краму яўрэя Гральніка, якая стаяла на рынку, і краму мануфактуры на Чырвонаармейскай вуліцы (цяпер на тым месцы жылы дом).

Слонімская міліцыя атрымала загад тэрмінова знайсці злодзеяў. Аднойчы ўвечары міліцыя і група



цывільных "добраахвотных памочнікаў" пачалі абследаваць Свята-Прэабражэнскі сабор, які стаяў у руінах на рагу вуліц Купалы і Пушкіна. Міліцыянеры звярнуліся па дапамогу да дырэктара кінатэатра "17 верасня" (цяпер будынак падатковай інспекцыі) Зайцава — неабходна была асвятляльная апаратура.

Рыгор Зайцаў успамінае, што міліцыянерам пашчасціла знайсці каля званіцы люк, праз які яны спусціліся ў падзямелле сабора (пазней стала вядома, што падобных лазаў там было два). Уваход быў замаскіраваны рэшткамі разбітай статуі. Калі некалькі чалавек па прыступках спусціліся ўніз, то адразу натрапілі на схаваныя каштоўнасці.

У падземным тунэлі, які ішоў ад сабора ў бок Першамайскай вуліцы да сучаснага помніка Леніну, не было паветра, аднак тут не было і вільгаці. Па словах Зайцава, увышыню ход дасягаў да трох метраў — звод быў паўавальнай формы. Шырыня хода была прыблізна 2-2,5 метра. Пабудаваны тунэль быў з белай трывалай цэглы. "Карэта магла праехаць у тым ходзе. Далёка мы не рызыкнулі лезці. На месцы, дзе стаіць сучасны помнік Леніну, знайшлі і дасталі наверх схаваны посуд, з іншага месца — мануфактуру. Знайшлі мы і шмат "чужога" дабра..." — сказаў Рыгор Зайцаў.

Амаль усе ўдзельнікі той "аперацыі" ужо памерлі. Няма ўжывых Івана Цецерава, памёр і міліцыянер Прэдка... А лазы ў падзямелле тады былі замураваны. Каб злодзеі больш не выкарыстоўвалі іх у сваіх злачынных мэтах.

## Пра трактарыста, які завалодаў золатам

"ГС" ужо пісала пра падзямелле сінагогі. Тады і было выказана меркаванне, што ад храма адыходзяць у розныя бакі некалькі падземных тунэляў. Як высветлілася, мы не памыліліся. Рыгор Зайцаў прыпамінае, што ў сярэдзіне 50-х гадоў каля перакрыжавання Ружанскай і Чырвонаармейскай вуліц у той час, калі ішла танкавая калона, правалілася дарога. Пакуль правал не засыпалі, гады два ці тры ў тую дзірку цякла дажджавая вада.

З сінагогай тунэлем была звязана і адна крама, якая знаходзілася недалёка ад рынку. Па сведчаннях



старажылаў, падчас нямецкай акупацыі ў падвале таго дома хаваліся людзі. Адтуль падземны тунэль ішоў у бок Ружанскіх могілак, да былога кафельнага завода, які знаходзіўся на месцы кар'ера. Так што ў слонімскіх падзямеллях ратаваліся гараджане ад фашысцкага тэрору. Ёсць сведчанні, што падземныя тунэлі выкарыстоўвала ў сваіх мэтах і падполле слонімскага гета. Напрыклад, у тайніках пад сінагогай падпольшчыкі хавалі зброю, якую потым перапраўлялі ў лес.

Дзесьці ў 1953 годзе ўлады вырашылі знішчыць яўрэйскія могілкі, якія знаходзіліся на месцы сучаснага гарадскога рынку. Цягачы і танкі зламалі і зраўнялі з зямлёй старую каплічку і сотні магільных плітаў і камянёў, якія вывозіліся ў невядомым напрамку... Падчас ліквідацыі могілак здарыўся такі выпадак. Адзін трактар на месцы сучаснай галоўнай рыначнай брамы раздушыў нейкую пасудзіну, з якой пасыпалася золата... Людзі кінуліся збіраць золата, але кемлівы трактарыст заглушыў сваю машыну і разагнаў натоўп жалезным прутом. А пасля сабраў скарб і знік. Больш яго ніхто не бачыў...

## Як шкілет дабаўкі прасіў

У 1950-х гадах у Свята-Троіцкай царкве праходзіла інвентарызацыя. Асаблівую ўвагу ўлады надавалі падвалам. Слонімцы Юрый Мароз і Рыгор Зайцаў здолелі патрапіць у падзямеллі з дапамогай царкоўнага старасты Крупко. Ён паказаў ім уваход у падвалы, дзе былі дзесяткі дубовых трунаў. У адной з іх ляжаў забальзамíраваны святар, які быў накрыты белым фартушком... Усё, што яны ўбачылі, падрабязна апісалі.

Хутка пра падзямелле даведаліся хлопцы з рамеснага вучылішча (цяпер у гэтым будынку знаходзіцца інтэрнат медвучылішча). Адтуль яны вывалаклі шкілет і паставілі яго каля дзвярэй сталоўкі, павесіўшы яму паперку з надпісам "Прыйшоў па дабаўку!". Жанчына-павcovers, убачыўшы гэта, аддала Богу душу... Выклікалі міліцыю, якая навяла парадак і загадала аднесці шкілет у падзямелле царквы. Лаз у падзямелле замуравалі, каб больш ніхто не парушаў спакой пахаваных там людзей.

У падзямеллі Свята-Троіцкай царквы ў гады вайны хаваліся людзі. Магчыма, сярод іх былі і яўрэі з гета, якое знаходзілася побач з царквой. Вядома, што ход ад царквы ішоў да сучаснай плошчы Леніна. У 60-х гадах падчас будаўнічых работ каля будынка ЗАГСу быў знойдзены тунэль. Пабудаваны ён быў з такой жа белай цэглы, як і той, што ішоў ад Свята-Прэабражэнскага сабору. Яго засыпалі зямлёй.

## Галава Сталіна

Помнік Іосіфу Сталіну ў Слоніме з'явіўся пасля яго смерці, дзесьці ў 1954 годзе. Улады вырашылі ўстанавіць манумент на Гандлёвай плошчы (цяпер — імя Леніна). Гэта даручылі зрабіць трам будаўнікам: Зайцаву, Місінкевічу і Кіпелю. Нялёгкая задача выпала ім.

Ужо з самага пачатку стала зразумела, што пад будаўнічай пляцоўкай знаходзяцца падземныя збудаванні, бо грунт праваліўся... Рабочыя меркавалі, што яны натрапілі на падземны ход, які ішоў з боку Першамайскай вуліцы. Прыйшлося яго засыпаць, а падмурак помніка ўмацоўваць рэльсамі. Заданне партыі было выканана, і таварыш Сталін некалькі гадоў "упрыгожваў" наш горад.




Але насталі новыя часы. Калі вынеслі з маўзалея Сталіна, то па ўсёй краіне пачалі знішчаць яго помнікі. Аднойчы ўночы ў Слоніме была праведзена падобная аперацыя. Спачатку міліцыя перакрыла ўсе падыходы да плошчы, а пасля рабочыя пачалі нішчыць помнік. Пад яго была закладзена ўзрыўчатка. Падарваны Сталін упаў на зямлю. Усю ноч рабочыя разбівалі яго на кавалкі, якія грузілі на машыну і вывозілі ў дзеравянчыцкі лес.

Уцалела толькі галава "правадыра", якую пабаяліся выкінуць і занеслі ў падвал гарвыканкама (ён тады знаходзіўся ў адным з будынкаў на плошчы Леніна). Там яна ляжала некалькі гадоў і палохала людзей, якія выпадкова на яе натраплялі. А пасля галава Сталіна невядома куды знікла.

Сёння амаль усе ўваходы ў падземныя тунэлі ў Слоніме замураваны і засыпаны. Адбываласа гэта падчас будаўнічых работ. Напрыклад, пры ўстаноўцы помніка Леніну было знойдзена падзямелле. Яго не маглі там пакінуць, бо баяліся, каб з помнікам чагосьці не здарылася. Тунэль быў засыпаны, а помнік заняў месца, на якім ён і сёння стаіць.

На месцы будаўніцтва помніка-танка (на пачатку 70-х гадоў) было выяўлена падзямелле. Па словах відавочцаў, ход ішоў у бок былой ратушы (цяпер гэта будынак раённай бібліятэкі). Яго таксама акуратна засыпалі і зараўнялі...

**Сяргей ЁРШ**

